наша
# свабода

№129(216) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 ЛІСТАПАДА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Расійская Вайсковая акадэмія – у Мінску

Створана Беларускае аддзяленне Акадэміі ваенных навук Расійскай Федэрацыі (АВН). Яго кіраўніком абраны член-карэспандэнт АВН прафесар Мікалай Шэхаўцоў. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе міністэрства абароны.

У склад Беларускага аддзялення АВН увайшлі тры секцыі, якія будуць праводзіць навуковыя экспертызы абаронных праектаў, удзельнічаць у фарміраванні ваенна-тэхнічнай палітыкі, распрацоўваць праграмы ваенна-навуковых даследаванняў, садзейнічаць падрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі ваенных вучоных.

**БелаПАН**

## Беларусь набывае расійскіх наёмнікаў

Толькі ў гэтым годзе з міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь заключылі кантракт каля 200 былых ваеннаслужачых расійскай арміі. Пра гэта БелаПАН паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення кадраў міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Аляксандр Цапота.

«Паступленню на службу ва Узброеныя Сілы, безумоўна, папярэднічае працэдура атрымання беларускага грамадзянства», – адзначыў Цапота. Паводле словаў намесніка начальніка ўпраўлення кадраў мінабароны, валанцёры з Расіі маюць высокі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі, многія з іх удзельнічалі ў баявых аперацыях у Чачні. Сярод іх нямала этнічных беларусаў.

«Ідзе нармальны працэс – людзі імкнуцца вярнуцца на радзіму і прадоўжыць ваенную кар'еру», – сказаў Цапота.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Пяць гадоў без ядзернай зброі

Пяць гадоў таму – 26 лістапада 1996 года – апошні расійскі ядзерны боезарад, які заставаўся за межамі Расіі, быў выведзены з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Паколькі Казахстан і Украіна завяршылі гэты працэс адпаведна ў красавіку 1995-га і маі 1996 года, у выніку былі выкананы міжнародныя абавязацельствы па дагавору СНУ-1.

Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БелаПАН гэтую падзею, дырэктар Міжнароднага інстытута палітычных даследаванняў (МІПД) Вячаслаў Пазняк адзначыў, што «альтэрнатывы для Беларусі проста не існавала, паколькі яна не мела тэхнічных магчымасцяў для падтрымання ядзернай зброі не толькі ў рабочым, але нават у бяспечным стане». Самым істотным набыткам Беларусі пасля гэтай акцыі, на думку В.Пазняка, стала палітычнае прызнанне з боку сусветнай супольнасці і, як вынік, магчымасць паўнавартаснага міжнароднага супрацоўніцтва. Пытанне аб стратах дагэтуль з'яўляецца прадметам дыскусій. Існуе меркаванне, што Беларусь не атрымала дастатковай матэрыяльнай кампенсацыі ні з боку Расіі, ні з боку ЗША, у прыватнасці, за матэрыялы, што расшчапляюцца.

Як мяркуе дырэктар МІПД, ісціна, відавочна, заключаецца ў тым, што Беларусь, на жаль, сама не выкарыстала поўнасцю магчымасці, якія адкрыліся. Сярод іх у першую чаргу трэба назваць праграму Нана-Лугара для Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны. Для Беларусі, у прыватнасці, намячалася аказанне матэрыяльнай дапамогі ў ліквідацыі наступстваў размяшчэння ядзернай зброі на тэрыторыі краіны на агульную суму 123 мільёны долараў ЗША. Аднак да моманту замарожвання гэтай праграмы для Беларусі Кангрэсам ЗША ў 1997 годзе было рэалізавана толькі 75 мільёнаў.

Трэба нагадаць, што рашэнне Кангрэса ЗША было патлумачана пагаршэннем сітуацыі з дэмакратыяй і выкананнем правоў чалавека ў Беларусі, паколькі аказанне дапамогі па праграме Нана-Лугара абумоўлена выкананнем мінімальных міжнародных стандартаў у гэтай галіне.

**Уладзімір ГЛОД**

# Зімовая праверка на дарогах



Фота IREX/ProMedia

Снег і галалёд значна павялічылі небяспеку на дарогах: паводле звестак ДАІ, прыкметна паболела аварыяў

# Былы генпракурор абвінавачвае пераемніка?

## *Ці стане сведкам на судзе Алег Бажэлка?*

*Былы генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка казаў пры сведках, што год таму рыхтаваўся арышт тагачаснага Дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Віктара Шэймана – у сувязі са знікненнем вядомых асобаў Беларусі. Пра гэта заявіў у зале суда расійскі тэлежурналіст Павел Шарамет.*

Наступныя звесткі рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ атрымала ад крыніцаў з залы Мінскага абласнога суда, дзе працягваецца закрыты працэс над былымі спецназаўцамі, якія абвінавачваюцца ў здзяйсненні каля 20 цяжкіх злачынстваў, у тым ліку – выкраданні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага. На судзе П.Шарамет пераказаў сваю размову з А.Бажэлкам улетку, калі той хаваўся ў адным з манастыроў у Расіі. Тады адстаўны генпракурор засведчыў, што ў працэсе расследавання знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага следства выйшла на падпалкоўніка «спецназа» Дзмітрыя Паўлічэнку, камандзіра вайсковай часткі №3214 унутраных войскаў Беларусі. Услед за арыштам Дзмітрыя Паўлічэнкі меркавалася арыштаваць па гэтай справе і Віктара Шэймана.

Але пасля таго, як Д.Паўлічэнка адсядзеў ноч у ізалятары КДБ, яго выпусцілі на волю. А Алег Бажэлка разам з тагачасным старшынём КДБ Уладзімірам Мацкевічам у адзін дзень пазбавіліся пасадаў і трапілі фактычна пад хатні арышт – гэта адбылося роўна год таму, 27 лістапада 2000 года. Што да Віктара Шэймана, то ён заняў пасаду генеральнага пракурора Беларусі, на якой застаецца і зараз.

Як паведамляюць нашыя крыніцы, дзяржаўны абвінаваўца запатрабаваў выклікаць на суд у якасці сведкі Алега Бажэлку, які цяпер знаходзіцца ў Мінску. Былы генпракурор мусіць цяпер пацвердзіць або абвергнуць звесткі аб датычнасці свайго «пераемніка» да знікненняў палітычных апанентаў Аляксандра Лукашэнкі.

Калі Алег Бажэлка сапраўды паўстане перад судом і пацвердзіць тое, што ён улетку казаў П.Шарамету, то ў гісторыі Беларусі адбудзецца нечуваны скандал. Каб былы генеральны пракурор абвінавачваў дзеючага ў дачыненні да асабліва цяжкіх злачынстваў – такога яшчэ не было ніколі!

Мы паспрабавалі звязацца асабіста з Паўлам Шараметам, каб пацвердзіць гэтую інфармацыю. Ён адмовіўся ад каментару, сказаўшы, што даў падпіску аб неразгалошанні. Аднак ён адзначыў, што зрабіў сур'ёзныя заявы, якія могуць выклікаць вялікі скандал на працэсе, дадаўшы пры гэтым, што пачынае непакоіцца пра асабістае здароўе і жыццё.

**Ірына СТАРЦАВА**

*Працяг тэмы на стар.3*

Павел Шарамет

Віктар Шэйман

Алег Бажэлка

## Кошты растуць хутчэй за зарплату

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі, рост сярэдняй налічанай зарплаты рабочых і служачых у кастрычніку быў ніжэй за ўзровень інфляцыі. Заробкі павялічыліся за месяц на 2,9%, а спажывецкія кошты ўзраслі на 3,6%.

## Аўтобусы знасіліся

Па словах міністра транспарту Міхаіла Баравога, у краіне вельмі малымі тэмпамі ідзе працэс абнаўленне аўтобуснага аўтапарка. Калі напачатку 90-ых гадоў мінулага стагоддзя папаўненне новымі машынамі складала каля 12%, то апошнімі гадамі ўсяго 3%. 50% аўтобуснага парка спрэс зношана.

## «Белкамунмаш» акцыяніруюць

Вытворчае аб'яднанне «Белкамунмаш», якое вырабляе тралейбусы і трамваі, будзе акцыяніраванае. Мэта – прыцягнуць на прадпрыемства інвестыцыі расійскіх, венгерскіх, чэшскіх і італьянскіх фірмаў.

## Вайскоўцы пакідаюць крэпасць

Старажытная крэпасць у Бабруйску, дзе раней доўгі час знаходзіліся вайскоўцы, бліжэйшым часам будзе перададзеная на баланс гарвыканкама. Якая ўстанова размесціцца ў крэпасці, пакуль невядома. Гэта могуць быць філіял Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта ці атэлье. Ёсць яшчэ некалькі варыянтаў.

## Акцыя «Дзень Зямлі»

Мінадукацыі сумесна з арганізацыяй «Беларускі зялёны крыж» абвесціла аб правядзенні акцыі «Дзень Зямлі. Беларусь-2001». Яна будзе ўяўляць сабой разнастайныя конкурсы сярод школьнікаў. Адзін з іх, напрыклад, на лепшы праект адраджэння забытага помніка культуры «Нам засталася спадчына».

## З'езд псіхіятраў

Беларускія псіхіятры і нарколагі плануюць сабрацца на свой другі з'езд, дзе абмяркуюць псіхасацыяльны стан грамадства і праблемы яго вывучэння адмыслоўцамі. Ён мае прайсці 13 і 14 снежня 2001 года ў Гродне.

## «Восеньскія грымоты» літоўцаў

Паблізу беларускіх межаў пачаліся вучэнні літоўскіх узброеных сілаў пад назвай «Восеньскія грымоты». Удзел у іх бяруць больш за 800 вайскоўцаў і 147 адзінак тэхнікі. Вучэнні працягнуцца да 2 снежня.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1550**

## Сацыяльная дапамога да бедных не даходзіць

26 лістапада ў Мінск прыбыла Галіна Сацірава — кіраўнік сацыяльных праектаў Сусветнага банка (СБ) па Беларусі.

27 лістапада яна возьме ўдзел у семінары, які ладзіць міністэрства працы і сацыяльнай абароны і на якім будзе абмяркоўвацца распрацоўка нацыянальнай праграмы адраснай сацыяльнай дапамогі.

Над адзінай праграмай адраснай сацыяльнай дапамогі беларускі ўрад пры падтрымцы СБ працуе на працягу некалькіх апошніх гадоў, ажыццяўляючы пілотныя праекты. Сутнасць сістэмы адраснай сацыяльнай дапамогі ў тым, што дзяржаўныя субсідыі накіроўвацца толькі найменш абароненым групам. Пры гэтым колькасць атрымальнікаў дапамогі звычайна не перавышае 15 працэнтаў насельніцтва.

На думку экспертаў СБ, праблема сённяшняй беларускай сістэмы ў тым, што вялікая частка сацыяльных субсідыяў распаўсюджваецца на ўсё насельніцтва незалежна ад узроўню даходаў, а некаторыя найбяднейшыя катэгорыі насельніцтва, асабліва ў сельскай мясцовасці, аказваюцца пазбаўленымі сацыяльнай дапамогі.

На сёння, паводле меркаванняў экспертаў СБ і беларускага ўрада, найбяднейшыя групы насельніцтва атрымоўваюць менш за 30 працэнтаў ад агульнай сумы сацыяльных выплатаў, у той час як розныя льготамі і субсідыямі ахоплены каля 5 мільёнаў чалавек — палова жыхароў Беларусі.

**Алесь АБРАМОВІЧ**

## Вымогі рамонту будынкаў

На старых, аблезлых будынках Магілёва, большасць з якіх патрабуюць хаця б касметычнага рамонту, зноў пачалі з'яўляцца надпісы «ЗУБР» і такі ж варыянт на лацінцы. Пад некаторымі з надпісаў зварот да старшыні Магілёўскага аблвыканкама Б.Батуры: «Батура, адрамантуй будынак!». Шмат у якіх месцах пад назвай руху намаляваны кантактны нумар пэйджэра для навічкоў.

Па словах аднаго з магілёўскіх актывістаў, гэтай акцыяй «зубры» жадаюць прыцягнуць увагу ўладаў горада на тое, што ў чысціні патрэбна ўтрымліваць не толькі паказушны цэнтр горада, але і мікрараёны. Бо, прыкладам, у крамах ці цырульнях, якія знаходзяцца ў цэнтры абласнога цэнтра – зроблены альбо робяць еўрарамонт, а іншыя будынкі ўлады не могуць нават перафарбаваць. Такія надпісы будуць з'яўляцца на будынках да тае пары, пакуль іх не адрамантуюць.

**Аляксей СТАЎСКІ**

ВАЛЮТА

## Дэдаларызацыя эканомікі

Нацыянальны банк Беларусі рэкамендаваў сваім галоўным упраўленням па абласцях і горадзе Мінску пры разглядзе пытання аб працягу раней выдадзеных ліцэнзіяў на рознічны гандаль і аказанне паслуг грамадзянам за замежную валюту даваць дабро на тэрмін не больш чым адзін год. Такая рэкамендацыя дадзена ў сувязі з праводзімай палітыкай дэдаларызацыі эканомікі і звужэння сферы абароту замежнай валюты на тэрыторыі Беларусі. Зараз працяг ліцэнзіяў на рознічны гандаль і аказанне паслуг грамадзянам за замежную валюту можа рабіцца на тэрмін да трох гадоў.

**Аляксей АРЭШКА**

СКАРАЧЭННІ

## Культуры ўсё менш

Дэфіцыт расходнай часткі плануемага на 2002 год бюджэту Брэсцкай вобласці ў 40 працэнтаў ад патрэбнага прымушае загадзя скарачаць выдаткі ў сацыяльнай сферы. І ўжо начальнік упраўлення культуры аблвыканкама Рыгор Бысюк папярэдзіў працаўнікоў 16 вясковых клубаў і бібліятэк, што ім давядзецца шукаць іншую працу. Замкі павешаныя і на дзверы яшчэ некалькіх дзесяткаў культасветніцкіх установаў, бо для аплаты паліва для іх таксама не стае фінансавых сродкаў.

З жалем даводзіцца канстатаваць, што ў рэгіёне, які багаты на гістарычна-культурную спадчыну, пачаўся магутны адкат ад ранейшых пазіцыяў у аднаўленні помнікаў, палацава-паркавых ансамбляў, грамадскіх музеяў. На першы план зараз вылучаныя патрабаванні зарабляць дадатковыя сродкі на платных паслугах і эканоміць на астатнім. Магчыма, гэта ўрэшце абернецца падвышэннем заробку для культработнікаў на ацалелых пасадах да 100 долараў, але, відавочна, што жыць ад гэтага весялей не стане.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Журналістаў «Пагоні» папярэдзілі

26 лістапада суддзя Д.Дземчанка зачытаў прысуды адносна журналістаў газеты «Пагоня». А.Пісальнік і П.Мажэйка атрымалі кожны папярэджанне за ўдзел у несанкцыяваным пікеце. У гэтай акцыі ў падтрымку закрытай «Пагоні» 19 лістапада ў Гродне ўдзельнічалі некалькі дзесяткаў чалавек. Міліцыя склала пратаколы на двух журналістаў і галоўнага рэдактара газеты М.Маркевіча. Паколькі ён адрасу пакінуў Гродна, суд над ім адбудзецца пазней.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

ПАРТЫІ

## Шушкевіч застаўся на чале Грамады

Станіслаў Шушкевіч захаваў пасаду старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ). Такі асноўны вынік чарговага з'езда партыі, які прайшоў у Мінску 25 лістапада.

Было таксама пацверджанае членства БСДГ у Каардынацыйнай Радзе дэмакратычных сілаў і Кансультатыўным Савеце апазіцыйных палітычных партыяў.

З'езд абавязаў свае цэнтральныя органы ва ўсіх кроках па кансалідацыі дэмакратычных сілаў няўхільна прытрымлівацца прынцыпу захавання незалежнасці Беларусі. Дэлегаты з'езда пацвердзілі курс кіраўніцтва партыі на аб'яднанне сацыял-дэмакратычных сілаў краіны. Паводле словаў Шушкевіча, адзіная ўмова пры гэтым — захаванне назвы партыі.

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада таксама лічыць, што нармалізацыя стасункаў паміж Беларуссю і Еўропай павінна ажыццяўляцца на аснове выканання беларускім бокам чатырох умоваў, вылучаных еўрапейскім супольніцтвам, сказаў Станіслаў Шушкевіч.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

БАНКРУТ

## Ліквідацыя «Чырвонай зоркі»

Ліквідацыйная камісія, створаная ў Кобрынскім раёне для юрыдычнага афармлення эканамічнага банкруцтва калгаса «Чырвоная зорка», пачала тут раздаваць на рукі працоўныя кніжкі. Для тых з вяскоўцаў, хто не спіўся і не лайдачыць, гэты дакумент можа яшчэ спатрэбіцца для ўдзелу ў заснаванні на калгаснай зямлі і маёмасці акцыянернага тавырыства.

Паказальна, што абласная і раённая «вертыкалі» выпускаюць з-пад свайго дыктату найбольш разбуранае гняздо калектывізацыі. Ураджаі з палёў, малако і мяса з фермаў не забяспечвалі прыбыткаў нават для выплаты заробку. Па банкаўскіх крэдытах калгас завінаваціўся на 130 мільёнаў рублёў і няма зараз ніякіх магчымасцяў разлічыцца па іх. На адзінай ферме засталося 190 кароў, большая палова з якіх не здольныя даць плоду.

**Галіна БАРАВАЯ**

НАШЫ МЯСТЭЧКІ. НАВАГРУДАК

Фота IREX/ProMedia

## Газіфікацыя Магілёўшчыны

З пачатку года спажыўцы запазычылі Магілёўскаму абласному прадпрыемству «Аблгаз» каля 18 мільярдаў рублёў. З восені на рахункі Аблгаза «жывымі» грашамі ў якасці платы за аказаныя паслугі паступае толькі каля 10 працэнтаў іх кошту.

Сёлета на тэрыторыі Магілёўскай вобласці газ прыйдзе ў 8 тысяч кватэраў і больш чым на 200 сядзібаў. У наступным годзе газ атрымаюць жыхары Глускага раёна, і такім чынам будзе завершаная газіфікацыя ўсіх раёнаў вобласці.

**Канстанцін УВАРАЎ**

МАСТАЦТВА

## Фільм пра Шагала

Японская тэлекампанія «*NHK*» здымае дакументальна-гульнявы фільм пра раннія гады жыцця славутага мастака Марка Шагала.

Як паведаміла дырэктар Музея Марка Шагала ў Віцебску Людміла Хмяльніцкая, нядаўна ў горадзе працавала здымачная група. На радзіме мастака японская кінематаграфісты здымалі Дом-музей Шагала, кварталы старога Віцебска, а таксама куткі Лёзна, дзе некаторы час жыў Шагал. Дагэтуль тэлежурналісты пабывалі ў Цэнтры Жоржа Пампіду ў Парыжы і Нацыянальным музеі Марка Шагала ў Ніцы, у Габрэйскім музеі ў Нью-Йорку, Маскве і Санкт-Пецярбургу. Кампанія «*NHK*» ствараe гэтую стужку па заказу прыватнай галерэі *Anniversaire* з Токіо, дзе хутка адкрыецца вялікая выстава твораў Марка Шагала. Разам са здымачнай групай Віцебск наведала дырэктар галерэі *Anniversaire* Міяка Такешыта.

«Пра яго папулярнасць у Японіі гаворыць той факт, што праз тыдзень у Віцебск прыехаў прадстаўнік яшчэ адной японскай галерэі з горада Хірасіма. У галерэі прэфектуры ў 2002 годзе будзе экспанавацца вялікая выстава твораў Марка Шагала з многіх збораў, у тым ліку — Цэнтра Жоржа Пампіду ў Парыжы», — паведаміла Людміла Хмяльніцкая.

**Марат ГАРАВЫ**

АПТЭКА

## Наркотыкі па падробных рэцэптах

У Пінску затрыманая 30-гадовая жыхарка, якая займалася вырабам фальшывых штампаў і рэцэптаў для набыцця ў аптэках псіхатропных рэчываў.

Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе УУС Брэсцкага аблвыканкама, Алена С. ужо была асуджаная за падробку пячатак і штампаў — пасля таго як у 1997 годзе ў аптэках Пінска была канфіскаваная вялікая колькасць фальшывых рэцэптаў на набыццё псіхатропных прэпаратаў.

У лістападзе гэтага года ў Брэсце і Пінску зноў з'явіліся падробныя рэцэпты. Напрыклад, у пінскай аптэцы №4 унітарнага прадпрыемства «Гелена» супрацоўнікі ўпраўлення наркоаў і незаконнага абароту наркотыкаў УУС Брэсцкага аблвыканкама знайшлі 20 рэцэптаў, якія ніводная медустанова горада не выдавала. Пры дапамозе почырказнаўчай экспертызы было ўстаноўлена, што іх вырабіла Алена С. Бланкі рэцэптаў Алена С. і яе хаўруснікі выкрадалі ў паліклініках.

Як паведамілі БелаПАН ва УУС, псіхатропнае рэчыва эфедрын, якое ўтрымліваецца ў прэпараце «Салутан», а таксама іншыя псіхатропныя рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў некаторых медыцынскіх кампанентах гэтага раду, выкарыстоўваюць для вырабу наркотыкаў. У Пінску на ўліку ў наркадыспансеры знаходзяцца 230 асобаў, таму заказчыкаў у Алены С. было дастаткова.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**



## «Піянер» прыватызацыі мяняе камітэтчыка

Кадравы перaтрус у апараце Брэсцкага аблвыканкама пакінуў без свайго ачольніка ўжо тры абласныя ведамствы: эканоміку, адукацыю і прыватызацыю. Апошнім звольнены старшыня камітэта па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыяй Анатоль Бушуеў. Менавіта з прафесійнай дзейнасцю гэтага чыноўніка звязаны ў мінулым аўтарытэт Брэста як «піянера» аўкцыёнаў па камерцыйнай продажы крамаў, цырульняў, фотамайстэрняў. Адстаўка Бушуева на месцы лічыцца амаль скандальнай, бо яна адбылася цягам спрэчак у аблвыканкаме наконт так званых грандыёзных аўкцыёнаў па продажу акцыяў 19 прамысловых прадпрыемстваў камунальнай уласнасці. Асобныя з іх — Брэсцкі, Гарадзецкі, Пружанскі кансервавыя заводы, Бярозаўскі сыраробчы камбінат, Баранавіцкі і Брэсцкі малочныя камбінаты — могуць страціць гаспадарчую самастойнасць у выніку продажу кантрольнага пакета акцыяў у рукі расійскіх прадпрымальнікаў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Пажар на спіртзаводзе

24 лістапада ў вёсцы Чырвоная Буда Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці загарэўся адміністрацыйны будынак спіртзавода саўгаса «Крычаўскі».

Работнікі службы аховы самастойна не змаглі зладзіць з агнём і выклікалі ратавальнікаў. Паколькі аддзел па надзвычайных сітуацыях размяшчаўся ў 15 кіламетрах ад месца здарэння, было прынятае рашэнне выклікаць падраздзяленне бліжэйшай воінскай часці. Праз чвэрць гадзіны на месцы пажару працавалі вайскоўцы і падраздзяленні МНС.

Агонь, які ахапіў аднапавярховы будынак, у любы момант мог «перабрацца» на сумежны з адміністрацыйным будынкам вінны цэх, што магло прывесці да сур'ёзных наступстваў для ўсяго спіртзавода. Каля гадзіны ратавальнікі-пажарныя тушылі палаючыя памяшканні і разам з тым «абараніялі» ад агню вінны цэх. У 16 гадзінаў 50 хвілінаў пажар быў ліквідаваны.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

НАВУКА

## Нацыянальны эталон даўжыні

У Інстытуце малекулярнай і атамнай фізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі вядзецца праца над стварэннем нацыянальнага эталона даўжыні.

Як паведаміў БелаПАН намеснік дырэктара інстытута па навуковай працы, доктар фізіка-матэматычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіль Машко, распрацоўка эталона на аснове гелій-неонавага лазера вядзецца ў рамках рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы «Эталоны Беларусі».

«Пасля распаду Савецкага Саюза метралагічная база вельмі нераўнамерна размеркавалася, таму ў нашым распараджэнні сёння няма сучаснага эталона даўжыні. Гэта вельмі важная для ўсёй рэспублікі праца», — зазначыў Васіль Машко.

Лазерны эталон даўжыні ствараецца вучонымі-фізікамі сумесна са спецыялістамі Беларускага дзяржаўнага інстытута метралогіі (БелДІМ). Эталон уступіць у эксплуатацыю ў 2003 годзе.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Новыя спецмашыны

У Беларусі дапоўнены пералік спецыяльных легкавых аўтамабіляў.

Дакумент дапоўнены двума пазіцыямі. Першая з іх — «Органы дзяржтэхнагляду». Функцыянальным прызначэннем аўтамабіляў гэтых органаў вызначана забеспячэнне дзяржаўнага нагляду за тэхнічным станам трактароў, меліярацыйных, дарожна-будаўнічых і сельскагаспадарчых машын і абсталявання. Адметнымі асаблівасцямі такіх машын будуць надпіс «Дзяржтэхнагляд», кантрастуючая паласа жоўтага колеру, маячок сіняга колеру, сірэна. Апрача таго, пералік дададзены пазіцыяй «Аграэалабараторыя». Функцыянальнае прызначэнне такіх аўтамабіляў — абследаванне сельскагаспадарчых пасеваў і ўгоддзяў, населеных пунктаў і прысядзібных участкаў, адбор і аналіз вады, глебы і раслінаў і гэтак далей.

**Аляксей АРЭШКА**

# Месца хрышчэння Ісуса

Міжнародная група вучоных, якая вяла раскопкі на Святой зямлі, абвясціла, што ёй нарэшце ўдалося вырашыць адну з таямніцаў, звязаных з Новым запаветам, — удакладніць месца хрышчэння Ісуса Хрыста. Да гэтага часу пераважала думка, што месца хрышчэння знаходзіцца ў наваколлі паселішча Каср-эль-Яхуд на заходнім беразе ракі Іардан. Аднак найноўшыя археалагічныя знаходкі паказалі, што абрад хрышчэння праводзіўся ў іншым месцы – на ўсходнім беразе ракі. Зараз тут іарданскае паселішча Вадзі-эль-Харар.

Апісанне таго месца на рацэ Іардан, дзе Ісус прыняў хрышч, ёсць толькі ў адным Евангеллі – ад Іаана. У ім апавядаецца, што Іаан Хрысціцель прапаведваў і хрысціў блізка да паселішча Віфанія на верхнім Іардане. Аднак заставалася невядома, дзе канкрэтна знаходзілася гэтае месца, бо ў Палесціне было некалькі паселішчаў з такой назвай.

Таму поўнай упэўненасці ў дакладнасці звестак пра месца, дзе прыняў хрышч Ісус, не было да самага апошняга часу, пакуль падчас раскопак не знайшлі аснову грэчаскай калоны. Яна ўяўляе сабой мармуровую пліту ў форме квадрата два на два метры. У часы ранняга хрысціянства калона была ўсталяваная ў тым месцы ракі, дзе Іаан Прадцеча правёў хрышчэнне Збавіцеля ў водах Іардана. Гэтая знаходка пацвердзіла правільнасць высноваў тых, хто лічыў, што Вадзі-эль-Харар — сапраўднае месца хрышчэння.

Справа ў тым, што ў творах паломнікаў часоў візантыйскай эпохі ў Святыя мясціны часта ўзгадвалася грэчаская калона з крыжам наверсе, якая акрэслівала месца хрышчу. Знойдзеная ў часе цяперашніх раскопак пліта, на думку вучоных, і ёсць аснова менавіта гэтай памятнай калоны. Праўда, яе знайшлі ў 40 метрах на ўсход ад сённяшняга берага Іардана. Аднак гэта цалкам адпавядае высновам вучоных пра тое, што ў V стагоддзі Іардан некалькі змяніў сваё рэчышча пры ўпадзенні ў Мёртвае мора.

Шчаслівы выпадак дапамог адшукаць гістарычную мармуровую пліту пры даследаванні руінаў візантыйскай царквы. Гэтая царква цікавая тым, што ад яе сходы вялі напраслкі ў Іардан. Менавіта недалёка ад берага і адшукалася праз стагоддзі квадратная падэшва знакамітай калоны.

Далейшыя даследаванні паказалі, што на гэтым месцы былі некалі пабудаваныя тры царквы. Першая з іх узвышалася над зямлёй на 6 метраў на спецыяльных арках, каб пазбегнуць разбурэння пры разлівах Іардана. Аднак з цягам часу цэрквы прыйшлі ў заняпад, і месца хрышчэння паступова было забытае. Нядаўнія даследаванні дапамаглі вярнуць хрысціянству адну з найзначных яго святыняў.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

# Віцебскія мастакі ў Рызе

27 лістапада ў сталіцы Латвіі праходзіць выстава «Віцебскія мастакі ў падарунак Рызе». Экспазіцыі твораў Вікторыі Крупскай, Леаніда Медзведскага, Пятра Кірыліна, Віктара Нікалаева і Руслана Лядзенкі размешчаны ў самых прэстыжных залах Рыгі – Доме Кангрэсаў і Кінагалерэі.

Як паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі, адкрываючы выставу, часовы павераны ў справах Беларусі ў Латвіі Віктар Іваноў зазначыў: «Нам прадастаўлена цудоўная магчымасць глыбей азнаёміцца з творчасцю сучасных таленавітых мастакоў Віцебшчыны – паўночнай вобласці Рэспублікі Беларусь, якая непасрэдна мяжуе з Латвіяй. Іх творы атрымалі шырокае прызнанне ў Беларусі і за яе межамі – як гарманічны працяг лепшых традыцый «віцебскай школы», заснаванай славутымі майстрамі пэндзля – Маркам Шагалам, Казімірам Малевічам і Эль Лісіцкім. І зараз выдатныя традыцыі гэтай «школы» працягваюцца. Спадзяюся, што гэты падарунак Рызе знойдзе водгук у сэрцах высокіх знаўцаў прыгожага, атрымае прызнанне ў рыжан і гасцей сталіцы Латвіі».

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

# Радзівіл на карціне Тыцыяна

*Беларускае мастацтвазнаўства не дае падставаў для сцвярджэння, што ўсё вывучанае і раскладзенае па паліцах. Што ж да гістарычнага партрэта, то тут белых плямаў амаль што не засталося. Праўда, не таму, што вывучанае ўжо ўсё, проста мала маем з яго спадчыны, бо не захавалі, не ўратавалі, аддалі суседзям.*

Асоба Мікалая Радзівіла Чорнага, вядомага беларускага магната і дзяржаўнага дзеяча, вывучаная дастаткова добра. Дзякуючы гэтаму чалавеку на Беларусі пачаў распаўсюджвацца кальвінізм, на ягоныя сродкі былі збудаваныя друкарні ў Берасці ды іншых гарадах Вялікага Княства Літоўскага, узведзены першы кальвінскі збор на Беларусі – у берасцейскім замку. Чалавек вялікіх здольнасцяў, ён шмат гадоў змагаўся за княжацкі тытул для свайго роду. Пасля смерці Радзівіла Чорнага справа, якой ён прысвяціў сваё жыццё, была спыненая: разбураныя кальвінскія зборы, спаленая Біблія, выдадзеная пратэстантам-кальвіністам. Толькі ў рэдкіх асобніках захавалася яна ў бібліятэках Расеі, Літвы, Польшчы...

Мікалай Радзівіл Чорны вядомы нам па партрэце «ў лаўровым вянку», які называюць яшчэ сармацкім. На згаданым партрэце мы бачым чалавека магутнага (магчыма, мастак нават перабольшыў), крыху стомленага, з характэрнымі рысамі твару – высокім лобам з вялікімі залысінамі, з вачыма нібы злёгку «навыкаце», прыкрытымі павекамі. Нос са своеасаблівай гарбінкай і яшчэ (чыста жаночае ўспрыманне і разуменне) – густой, глыбокай барадой, якая добра схавала абвіслыя не па гадах шчокі. Разумеючы партрэт таго часу як, магчыма, генеалагічны дакумент, своеасаблівы пашпарт, мы маем надзею, што менавіта так выглядаў Мікалай Радзівіл Чорны.

Нарадзіўшыся ў пачатку XVI ст., ён да 1533 г. выхоўваўся ў Кракаве пры двары караля Жыгімонта I Старога. Не згадваючы падрабязнасцяў ягонага жыцця да 1547 г., маем надзею, што чытач пры жаданні іх адшукае. У 1547 г. Мікалай Радзівіл Чорны спрыяе развіццю інтрыгі са шлюбам Жыгімонта Аўгуста і сваёй стрыечнай сястры – Барбары Радзівіл. Ён выпраўляецца з пасольствам у Кракаў, каб высветліць стаўленне да гэтай падзеі каралеўскага двара. Адтуль ён падаўся да Фердынанда I, які быў бацькам першай жонкі Жыгімонта Аўгуста. Перамовы, што пачаліся ў Вене, працягваліся ў Аўгсбургу. Скончыліся яны ў прысутнасці Карла V 26 лютага 1547 г.

Усе гэтыя факты прыведзеныя дзеля таго, каб параўнаць яго з храналагічным жыццяпісам вялікага мастака, які жыў у той жа час, — Тыцыяна. Да гэтага перыяду належыць «Партрэт шляхціча», выкананы майстрам каля 1550 г. На партрэце мы бачым чалавека, якога даследчыкі атаесамлялі з Джаванні Аквавівам, герцагам Атры.

Можна меркаваць, што даследчык жыццёвага і творчага шляху Тыцыяна І.А.Смірнова пісала пра гэты «Партрэт шляхціча»: «...у 1548 г. мастак, якому споўнілася 60 гадоў, па запрашэнні імператара ад'язджае ў Аўгсбург... другі раз мастак едзе ў Аўгсбург у 1550г. Імператар здаўна звяртаўся да Тыцыяна з заказамі партрэтаў, яшчэ ў 30-я гады майстар пісаў партрэт імператара, за што быў узнагароджаны тытулам графа Палацінскага. 50-я гады былі для старога майстра вельмі інтэнсіўныя, майстэрня запруджаная заказамі. Тыцыян малюе партрэт сына Карла V – Філіпа II, сястры – Марыі Венгерскай і іншых Габсбургаў.



Шлях гэтага партрэта можна прасачыць пачынаючы з XVIII ст., калі заснавальнік Касельскай галерэі (Германія) набыў яго. Гэты твор суадносяць з герцагам Атры ў сувязі з лістом, у якім ёсць успамін пра партрэт герцага. Герцаг Атры (1510—1569) паходзіў з дынастыі Арагонаў, але з маленства, як выгнанец, жыў у Францыі пры двары французскіх каралёў. Толькі ў 1547—1548 гг. ён наведаў Рым, адкуль, верагодна, выязджаў у Венецыю, дзе, магчыма, сустрэў вялікага майстра. Але наколькі дакладна тое, што на ім намаляваны герцаг Атры, невядомы, бо, акрамя скульптурнага рэльефу герцага, больш партрэтаў не існуе... Трыумфальнасць жа партрэта занадта мала супадае з лёсам і жыццёвым шляхам герцага Атры».

Але тая ж трыумфальнасць супадае з настроем, які меў у гэты час Радзівіл: ці не атрыбуты княжацкай прыналежнасці дае яму анёл, пакінуўшы да пэўнае пары свае любоўныя сымбалі – лук са стрэламі? Менавіта толькі пасля атрымання родам Радзівілаў княжацкага тытулу 10 снежня 1547 г. Мікалай Радзівіл Чорны ажаніўся з Альжбетай Шыдлавецкай. Адбылося гэта 12 лютага 1548 г.

Тытул князя габсбургскага, які атрымаў Радзівіл ад Карла V у Аўгсбургу, быў пацверджаны 14 снежня 1548 г. Фердынандам I і толькі 24 студзеня 1549 г. – Жыгімонтам Аўгустам. Але апошняму гэта падалося недастатковым – 25 студзеня 1549 г. ён даруе Радзівілу на пажыццёвае карыстанне Берасцейскае староства.

Застаецца ўдакладніць сэнс выявы белага сабакі, а таксама геральдычнай выявы на галаўным уборы. Здаецца, там павінна быць адлюстраванне Пагоні на чырвоным полі, якая адпавядае гербу Берасцейскага староства...

**Ірына ЛАЎРОЎСКАЯ**

# Адукацыя ў ЗША

## Сярэдняя

З 5-гадовага ўзросту 60% амерыканскіх дзяцей навучаюцца ў падрыхтоўчых класах дзяржаўных дзіцячых садоў, астатнія 40% бацькоў выбіраюць прыватныя дашкольныя ўстановы. Ёсць у ЗША і школы для самых маленькіх: школы-яслі, якія наведваюць дзеці ад 3 да 6 гадоў. На гэтай стадыі галоўная задача амерыканскай адукацыйнай сістэмы — не столькі даць дзецям пэўную суму ведаў, колькі выхаваць у іх грамадскі дух.

У элементарнай (пачатковай) школе ЗША навучаюць чытанню, літаратуры, пісьму, арфаграфіі, вуснай мове, музыцы, маляванню, арыфметыцы, гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўству, гігіене, фізкультуры, працы. Здольнасці дзяцей вызначаюцца з дапамогай тэстаў. У гэтых адносінах ёсць тры групы: «адораныя», «нармальныя» і «нядатныя».

Сярэдняя школа звычайна дзеліцца на дзве ступені: малодшую і старэйшую, у кожнай вучацца па тры гады. У сярэдняй школе няма адзіных вучэбных планаў, праграмаў, падручнікаў. Вучэбны год доўжыцца 170-186 дзён, дзеці ходзяць у школу 5 дзён на тыдзень па 5-6 гадзінаў на дзень. З 8 класа з'яўляецца сістэма выбару прадметаў. Абавязковымі застаюцца: англійская мова, матэматыка, грамадазнаўства, прыродазнаўства, фізкультура, гігіена, музыка, маляванне, праца для хлопчыкаў, дамаводства для дзяўчынак.

Напачатку 9-га года навучання ўсе навучэнцы праходзяць тэст на вызначэнне «каэфіцыента інтэлектуальной адоранасці» (*IQ*) — калі ён пакажа ніжэй 90, дык дзецям у якасці прадметаў на выбар рэкамендуюць практычныя курсы, якія рыхтуюць непасрэдна да якой-небудзь прафесіі. Напрыклад, школьнікі, якія запісаліся на «індустрыяльныя курсы», шмат працуюць у майстэрнях і гаражы. Ёсць «сельскагаспадарчы» і «камерцыйны» профілі.

Дзецям, якія паказалі высокі *IQ*, рэкамендуюць акадэмічны профіль. Ёсць яшчэ «агульны» профіль, але яго часта крытыкуюць за неакрэсленасць. Звычайна навучэнцы выбіраюць 5-6 прадметаў на паўгода. Шмат у якіх школах ЗША для атрымання атэстата сталасці, час, патрэбны на вывучэнне кулінарыі і ваджэнне аўтамабіля, прыроўніваецца да вучэбных гадзінаў, якія адводзяцца на літаратуру ці хімію.

У апошнія чатыры гады навучання абавязковымі застаюцца 5 базавых дысцыплінаў: англійская мова, матэматыка, прыродазнаўчыя навукі, сацыяльныя навукі, камп'ютэрная адукацыя. Апроч таго, для далейшай акадэмічнай вучобы неабходныя і веды замежнай мовы. Звычайна лепшыя вучні, мэта якіх паступіць ва універсітэт, выбіраюць шмат складаных і «прасунутых» курсаў у школе.

## Вышэйшая

У Амерыцы адсутнічаюць адзіныя патрабаванні да абітурыентаў. У некаторыя вузы набор праводзіцца на падставе конкурсных экзаменаў, гутаркі і тэставання, у іншыя — толькі на аснове дыплома. Пералік вывучаных прадметаў і ацэнак па іх, агульная колькасць балаў па тэстах, рэкамендацыі-характарыстыкі настаўнікаў, вынікі гутаркі — усё гэта таксама можа ўлічвацца пры прыёме ў вуз. У ЗША немалую ролю адыгрывае рэкамендацыйнае пісьмо з царквы, характарыстыка ад грамадскай арганізацыі, дакументы пра ўдзел у школьных алімпіядах, фестывалях, навукова-тэхнічных гуртках, у спартыўных мерапрыемствах, мастацкай самадзейнасці, суразмоўе аб матывацыі выбару будучай прафесіі. Шэраг амерыканскіх універсітэтаў і каледжаў здзяйсняюць прыём па выніках конкурсу дакументаў, але найбольш прэстыжныя вузы ладзяць тэставы адбор. Абітурыенты маюць права падаць заявы адразу ў некалькі вузаў.

Планавага прыёму і выпуску спецыялістаў у маштабе ЗША не існуе. Кожны вуз фарміруе студэнцкі кантынгент, не клапоцячыся, ці ўсе скончаць поўны курс і куды «самаразмяркуюцца».

У вузы ЗША прымаюцца людзі любога ўзросту. Тэрмін навучання не абмежаваны, што тлумачыцца неабходнасцю аплачваць навучанне. Сярэдняя плата за навучанне складае ад 7.000 долараў у дзяржаўных да 15.000 долараў у прыватных вузах. У ЗША болей за 1.350 мясцовых каледжаў і 2.000 каледжаў і універсітэтаў. З гэтай колькасці прыватныя вучэбныя ўстановы складаюць 65%.

Хоць тэрміны «каледж» і «універсітэт» не ідэнтычныя, яны ў Злучаных Штатах часта ўзаемназамяняемыя. Звычайна каледжы прапануюць 4-гадовую праграму навучання, якая вядзе да атрымання ступені бакалаўра. Каледжы могуць існаваць незалежна, прапануючы выключна праграмы пачатковай вышэйшай адукацыі, ці быць часткай універсітэта, навучанне ў якім дазваляе атрымаць дыплом як аб пачатковай вышэйшай ці аб поўнай вышэйшай адукацыі.

## Дзяржаўныя універсітэты

Універсітэты, падпарадкаваныя дзяржаве, раздзяляюцца на дзве катэгорыі.

**Навукова-даследніцкія.** Бальшыня штатаў маюць, як мінімум, адзін дзяржаўны універсітэт, прызначаны для забеспячэння адукацыйных магчымасцяў у традыцыйных раздзелах навукі і прафесійнай падрыхтоўкі. Гэтыя універсітэты, апрача праграмаў пачатковай вышэйшай адукацыі, удзяляюць значную ўвагу навукова-даследніцкай, а таксама педагагічнай працы. Як правіла, праграмы навучання ў меншай ступені звязаныя з прыкладнымі даследаваннямі, а ў большай — з тэарэтычнымі ці «чыстымі» даследаваннямі.

**Універсітэты тыпу «ленд-грант» і «сі-грант».** Гэтак званыя «зямельныя» і «марскія» універсітэты, назвы якіх цалкам адлюстроўваюць іхнію арыентацыю, апрача забеспячэння агульнай падрыхтоўкі ў розных сферах, робяць асаблівы ўпор на прыкладное выкарыстанне ведаў у сельскай гаспадарцы, тэхналогіі і машынабудаванні («ленд-грант») і ў сферы марскіх даследаванняў («сі-грант»).

Асаблівую групу складаюць нетрадыцыйныя вучэбныя ўстановы, якія шырока выкарыстоўваюць камп'ютэрную тэхніку (тэлекаледжы, адкрытыя універсітэты і да т.п.)

Навучанне ў каледжах дзеліцца на дыпломнае і паслядыпломнае. Курсы дыпломнага навучання — гэта 4-гадовы цыкл дысцыплінаў, па выніках якіх прысвойваецца акадэмічная ступень бакалаўра. Традыцыйнымі дысцыплінамі, неабходнымі для вывучэння на дыпломным узроўні, ёсць агульнанавуковыя дысцыпліны, «базавыя» ці агульнапрафесійныя, а таксама дысцыпліны на выбар.

Для атрымання ступені бакалаўра студэнт павінен набраць акрэсленую колькасць заліковых адзінак і здаць патрэбныя экзамены. У адрозненне ад ступені бакалаўра, ступень магістра ў ЗША арыентуецца на спецыялізаваную дзейнасць (музыка, кіраванне бізнесам, тэхніка, педагогіка ды інш.). Асобы, якія маюць ступень бакалаўра, павінны прайсці навучанне яшчэ на працягу 1-2 гадоў, напісаць і абараніць «тэзісы», у асобных універсітэтах патрабуецца веданне замежнай мовы. Тэзісы разглядаюцца як аналітычная справаздача прэтэндэнта на магістарскую ступень аб яго навуковай рабоце па абранай тэме, у якой дэманструецца ўменне збіраць, аналізаваць, абагульняць і выкладаць матэрыял.

Вышэйшым этапам падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў ёсць навучанне па дактарскіх праграмах, арыентаванае на дакладную спецыялізацыю і самастойнае навуковае даследаванне. У дактарантуру прымаюцца асобы, якія маюць, як правіла, ступень магістра, хоць у асобных універсітэтах дастатковай лічыцца ступень бакалаўра.

Актуальнай праблемай вышэйшай адукацыі ЗША застаецца прыцягненне здольнай моладзі ў тэхнічныя вузы. Па прагнозах, у бліжэйшыя дзесяцігоддзі Амерыка будзе адчуваць значны недахоп спецыялістаў інжынерна-тэхнічнага профілю.

**Па матэрыялах прэсы**



Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.

Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»

220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1789 Нумар падпісаны ў друк 27/11/2001 (15:00) Наклад — 9.490